

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 40(425)** **6 КАСТРЫЧНІКА 1999 г.**


## *Артуру Вольскаму - 75*

**Паважаны Артур Вітальевіч !**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны віншуе Вас з 75-гадовым юбілеем, зычыць здароўя і шчасця, плёну ў працы, творчага натхнення, надзеі і веры ў магутную свабодную Беларусь.

За Вашымі плячыма пралегла доўгая і багатая на падзеі жыццёвая пуцявіна, але, на шчасце, сум па роднай зямлі не затрымаў Вас ні на Уральскіх гарах, ні на Далёкім Усходзе; не спакусіла Вас надоўга і адмысловая служба боцмана, мінёра. Беларуская зямля нарадзіла Вас пісьменнікам і паклікала на родныя межы ў цяжкую хвіліну нацыянальнага руйнавання.

Свет ведае Вас як мужнага грамадзяніна, актыўнага барацьбіта за адраджэнне Бацькаўшчыны, які сваім пісьменніцкім і публіцыстычным талентам прыспешвае разняволенне краіны. Як калісьці пад японскімі кулямі, Вы і сёння на перадавой, у змаганні "за нашу і Вашу свабоду".

Мы ўдзячныя Вам за мілагучнасць і пяшчотнасць мовы Вашых твораў, за яе крынічную празрыстасць і мяккую утульнасць, у якія ўплецены пракавечная беларуская сціпласць і моц.

Вы далучылі беларускіх дзяцей да скарбніцы нашай мовы, адчынілі перад імі куфэрак нашых найкаштоўнейшых слоў-пярлін.

Традыцыямі Вольскіх багацее беларуская дзіцячая літаратура, шчырымі сынамі багацее Беларусь.

***Сакратарыят ТБМ.***

## Алег Трусаў атрымаў папярэджанне

27 верасня 1999 года судзе Савецкага раёна горада Мінска адбылося чацвёртае судовае паседжанне па адміністрацыйнай спрваве кіраўніка Таварыства беларускай мовы імя Францішака Скарыны Алега Трусава, які абвінавачваўся ў тым, што прымаў удзел у несанкцыянаваным шэсці 27 ліпеня 1999 года з нагоды дня Незалежнасці.

На першых трох паседжаннях справу разглядала суддзя суда Савецкага раёна горада Менска І.Шэйко. На гэтых паседжаннях былі апытаны сведкі з боку А.Трусава, прагледжана відыястужка падзеі, на якой не было бачна А.Трусава. На чацвёртым паседжанні справа была перададзена суддзю Р.Казадоеву. Ён, парушыўшы заканадаўства, не пачаў разгляд справы з самага пачатку, а адразу выслухаў сведку, у ролі якога традыцыйна выступаў міліцыянт. Грамадскім абаронцам А.Трусава быў прадстаўнік Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" Барыс Гюнтэр. Нягледзячы на довады адваката, што А.Трусаў з'яўляецца карэспандэнтам і сябрам рэдкалегіі газеты "Наша слова", і 27 ліпеня наглядаў за шэсцем з боку, суддзя прызнаў Трусава вінаватым і вынес яму адміністрацыйную меру пакарання – папярэджанне.

***Інфармацыйны аддзел "Вясны-96".***



## На Беларусі "Навінаў" няма

29 верасня выйшаў у свет апошні нумар газеты "Навіны". Гэта газета пачала выходзіць у пачатку мінулага года пасля таго, як была зачынена яе папярэдніца "Свабода".


НАВІНЫ

САВЕЦКАЙ КАЛЯІНАЙ

БУЛАГ

З гэтай нагоды ў рэдакцыі адбылася прэс-канферэнцыя, на якой перад прысутнымі журналістамі выступілі і далі адказы на пытанні галоўны рэдактар Павел Жук і яго наместнік Мікалай Халезін. З іх вуснаў прагучала інфармацыя, што ў бліжэйшы час рэдакцыя плануе выпуск выдання пад назвай "Наша Свабода".

Хоць "Навіны" і былі двухмоўнымі, але заўсёды паслядоўна выступалі ў абарону беларускай мовы, тым больш што адзін з яе стваральнікаў знаны беларускі пісьменнік Кастусь Тарасаў.

Будзем спадзявацца, што "Наша Свабода" будзе працягваць і ўзмацняць традыцыю адстойвання пазіцый роднай мовы.

***Алесь Гурыновіч.***

## Менская гарадская канферэнцыя ТБМ

26 верасня ў Менску прайшла Менская гарадская канферэнцыя ТБМ імя Францішка Скарыны. Канферэнцыя разгледзела вынікі дзейнасці Менскай гарадской арганізацыі ТБМ. Канферэнцыя абрала новую гарадскую раду ў складзе 21 чалавека. Старшынёй рады абрана настаўніца беларускай мовы Леанарда Мухіна.

16 верасня ў Наваградку памёр **Валеры Сымонавіч Стома**, якому 8 жніўня споўнілася 60 гадоў.

Гэта ён быў заснавальнікам ТБМ з назвай "Узвышша" на Наваградчане, гэта ён быў першым кіраўніком Наваградскага Беларускага Народнага Фронту. Ён хацеў, каб у Наваградку дзейнічала Беларуская Аўтакефальная праваслаўная царква, рабіў для гэтага адпаведныя захады, перапісваўся з кіраўніцтвам БАПЦ у замежжы. Ён раіў усім прыхільнікам Беларушчыны выпісваць і чытаць "Нашу Ніву", беларускія газеты дэмакратычнага кірунку.

Цяжка хворы неднаразова разам з жонкай спадарыняй Аленай Дзедавай высылаў ахвяраванні ў падтрымку ТБМ. Жыў з надзеяй, што абудзіцца беларус і Беларусь сапраўды стане вольнай ды незалежнай.

Спі спакойна, наш шаноўны сябра. Хай будзе табе Наваградская родная зямелька пухам, бо Беларусь жыве, жыла і будзе жыць, а маладое пакаленне спраўдзіць тваю надзею.

***Сябры Наваградскай суполкі "Узвышша" ТБМ імя Ф.Скарыны.***

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментар Язэпа Палубяткі*

Сапраўднае нацыянальнае адраджэнне беларускага народа пачалося з ліпеня 1924 года, калі беларусізацыі надалі статус дзяржаўнай палітыкі. Але жыць паводле такога статусу давялося не больш, як дзесяць гадоў. Зноў рускую мову на месцы беларускай пачалі вяртаць ва ўсе віды службовага справаводства, вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

**"Народная воля" 11.09. 99г.**
**Леанід Лыч.**

*Глыбока перакананы, што карані жыватворнага слова, роднай мовы не загінуць, што і надалей застануцца магутнай яднальнай сілай беларускага народа.*

***З прывітальнага лістаАляксандра Лукашэнкі да ўдзельнікаў свята Дня беларускай пісьменнасці.***
***ЛіМ 10.09.99г.***

**Каментар:** Як бы хацелася, каб гэтыя словы чалавека былі шчырымі.

Статут 1529 года мае важнае значэнне і як помнік культуры і мовы нашага народа. Напісаны на беларускай мове, ён дае магчымасць паўней вывучыць літаратурны стыль, лексіку і лад дзяржаўна-прававой тэрміналогіі таго часу.

**"Рабочы" 15.09.99г.**

*Нядаўна мы святкавалі Аршанскую бітву. З усёй Беларусі з'ехаліся лепшыя прадстаўнікі нацыі, і большасць – моладзь. Душа мая радавалася. Усю ноч гучалі цудоўныя беларускія песні. Гучала родная мова.*

***Яўгенія Казлова.***
***"Навіны" 17.09.99г.***

Рэкламны фатограф Александр Барташэвіч не стамляецца паўтараць, што ніколі не будзе размаўляць па-беларуску.

Адвучыўшыся два гады ў тэатральна-мастацкім інстытуце ў Міхася Раманюка, зніто ўвае прычыну сваёй нелюбові да мовы з пастаццю свайго вышэйзгаданага выкладчыка. У кожнага Аляксандра ёсць свая прычына, ці сотні прычынаў, каб не любіць беларускае слова. Кожны з іх вышуквае ўсё новыя і новыя акалічнасці да нелюбові, замест таго, каб, знайсці адну прычыну, каб палюбіць сваю мову і самога сябе.

**Адам Глёбус.**
**"Наша Ніва" 20.09.99г.**

*Дык што ж гэта было? Што тварылася на нашай пяшчаснай зямлі? Што яны – непахісныя, цвёрдакаменныя, жалезныя – рабілі з намі, з нашым жыццёвым укладам, з нашай культурай, з нашай адвечнай, Богам дадзенай мовай?..*

***Ніл Гілевіч.***
***29.09.99г. "Народная воля"***

**Каментар:** У артыкуле ідзе гутарка пра сталінскія рэпрэсіі на Беларусі.

**На Беларусі прапісаўся шрыфт Брайля**

Кнігі для сляпых, у аснову якіх пакладзены шрыфт Брайля, выдаюцца і ў нашай краіне.

**- І ёсць сярод іх беларускамоўныя выданні?**

- Ужо ў 1997 годзе выдалі кніжку для чытання ў 3 класе "Світанак", падручнікі "Беларуская мова" для 2 і 3 класаў, летась – падручнік "Беларуская мова" для 5 класа, "Гісторыю старажытных часоў" Г. Штыхава, таксама для 5 класа. На наступны год запланаваны выпуск "Роднай літаратуры" для 5 класа, "Беларуская мова" для 4 і 6 класаў. З'явіцца і кніга для чытання ў 5 класе "Сцяжынка". Дарэчы, яна будзе складацца з сямі тамоў.

**ЛіМ. Інтэрвію Алеся Марціновіча з Людмілай Кругловай, галоўным рэдактарам выдавецтва "Полымя".**



№ 40(425) 6 КАСТРЫЧНІКА 1999 г. наша слова

# ШКОЛЬНІКАМ АДКРЫТА РАІЛІ ГАВАРЫЦЬ НЯПРАЎДУ ПРА СТАН НАШАЙ МОВЫ

З дапаможнікам "Білеты па гісторыі Беларусі" (серыя "Адказы на пытанні", "Роса роз"), прызначаныя для выпускных экзаменаў дзевяцікласнікаў, пазнаёміўся ўжо пасля таго, як прайшла праверка іх ведаў. Таму мяне могуць упікнуць, што я, маўляў, забыўся на прыказку, паводле якой "пасля бойкі рукамі не махаюць". Не, не забыўся, але як не абурыцца, няхай сабе і пастфактум, калі, гартаючы гэтую кніжку, усвядоміў: школьнікам адкрыта раілі гаварыць няпраўду.

Перш за ўсё мяне зацікавіла, як у адказе на пытанне "Развіццё культуры Рэспублікі Беларусь на сучасным этапе" (білет 20) аўтар дапаможніка Наталля Сянько ацэньвае сітуацыю з роднай мовай карэннай нацыі. Я не разлічваў, што знайду там эпітэты накшталт "катастрафічны або "крытычны стан" і лічбы, напрыклад, пра закрыццё ў краіне за апошнія пяць гадоў каля 600 беларускіх школ. Але і не чакаў, што значныя здабыткі беларусізацыі на пачатку 90-х гадоў, зведзеныя пасля рэферэндуму-95 амаль на нішто, будуць падавацца як сённяшняя рэальнасць. Цытую: *"На сучасным этапе* (г.зн. у дадзены час. – Г.Л.) *вялікая работа праводзіцца па адраджэнню беларукай мовы і беларускай культуры… Многія школы перайшлі на навучанне на роднай мове… Паслядоўна ідзе працэс фарміравання нацыянальнай сістэмы адукацыі…"*

Так лічыць Наталля Уладзіміраўна. Насамрэч усё адбываецца з дакладнасцю да наадварот. Нават намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч на нядаўнім з'ездзе ТБМ вымушаны быў адзначыць, што "гаварыць" пра лёс беларускай мовы з болем ёсць усе падставы (іншая справа, ці адчувае ён сам гэты боль). Прадузятасць і неаб'ектыўнасць аўтара дапаможніка становіцца яшчэ больш відавочнай, калі чытаеш фразу пра "паступовае пераадольванне ідэалагічнага і дзяржаўнага кантролю ў культуры". Нібы не за Лукашэнкам высокія чыноўнікі ў лепшых бальшавіцкіх традыцыях зноў сталі ўсюды тыкаць свой нос. Асабліва яны "клапоцяцца" аб гісторыі: аўтары падручнікаў і іншых прац пра наша мінулае павінны глядзець на ўсё не сваімі, беларускімі вачыма, а, як і раней, вачыма "старэйшага брата". Па ідэалагічных матывах пачалі забараняць выданне твораў вядомых пісьменнікаў і вывучэнне іх у школах. Шмат хто са школьнікаў паспеў зведаць на ўласным доследзе "значныя поспехі" культуры на фоне "дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця", калі адстойваў сваё права вучыцца на роднай мове.

Непрыхаваная тэндэнцыйнасць адчуваецца і ў іншых адказах, дзе кранаецца стан матчынай мовы ў розныя перыяды нашай гісторыі. Так, на старонках кніжкі згадваецца пра паланізацыю беларускіх зямель і выцясненне беларускай мовы з афіцыйнага ўжытку ў часы Рэчы Паспалітай, пра апалячванне насельніцтва і знішчэння той жа беларускай мовы і культуры ў Заходняй Беларусі, калі яна ўваходзіла ў склад Польшчы. Аб гэтым, безумоўна, павінна ведаць моладзь, і добра, што спадарыня Сянько назвала рэчы сваімі імёнамі. (Між іншым, цяперашнія нашы ўлады не падтрымліваюць польскамоўную адукацыю на колішніх "усходніх крэсах". Не надта ўтульна адчуваюць сябе там, як і паўсюдна ў краіне, нацыянальна свядомыя беларусы). Але куды прападае рашучасць аўтара, калі гаворка вядзецца пра стан беларускай мовы пасля далучэння Беларусі да Расеі?

Два стагоддзі таму месца паланізацыі на нашай зямлі заняла яшчэ больш страшэнная бяда – русіфікацыя, якая цяпер рэальна пагражае існаванню тытульнай нацыі, не кажучы ўжо пра яе мову і самабытную культуру. Наталля ж Уладзіміраўна быццам і чуць не чула пра гэтую навалу. Ва ўсялякім разе такое ўражанне ўзнікае пры знаёмстве з яе творам. Нават, калі тэрмін "русіфікацыя" сам просіцца на паперу (як у адказе на пытанне пра палітыку беларусізацыі у 20-х гадах), дык усё роўна пішацца іншае слова: маўляў, "са спыненнем беларусізацыі пачалася "контрбеларусізацыя". На мой погляд, больш сумленна было б зазначыць, што ў 30-х гадах пачалося ўкараненне расейскай мовы ў прымусовым парадку, а гэта не што іншае, як гвалтоўная русіфікацыя. (Я, дарэчы, сам, тады школьнік, быў сведкам гэтага пачварнага працэсу). А можа, Н.Сянько даводзілася азірацца на тое, "что станет говорить…" – не, не "княгиня Марья Алексеевна", а сам палкоўнік Уладзімір Пятровіч?

Канешне, аўтар мае права выкарыстоўваць сінанімічныя і іншыя магчымасці мовы, але ў любым выпадку школьніка нельга пазбаўляць права на Праўду. І нікому не ўдасца зноў схаваць за сямю пячаткамі бясспрэчныя гістарычныя факты асімілятарскай палітыкі ў дачыненні да беларусаў і ў Расейскай імперыі, і ў савецкай. Вось што пісаў у свой час вядомы беларускі дзяржаўны дзеяч, пакутнік і патрыёт сваёй Бацькаўшчыны Аляксандр Чарвякоў наконт расейскага царызму:

***"Царскі ўрад, захапіўшы ў свае рукі Беларусь пасля падзелу Польшчы, упэўніў сябе і стараўся ўпэўніць другіх, што Беларусь ёсць "ісціна рускі" край. Гора было таму, хто з гэтым не згаджаўся і думаў іначай… Усё нярускае нішчылася, праследавалася, забаранялася. Беларуская мова была прызнана "мужыцкай, хамскай", і супраць яе вялася самая рашучая барацьба. Вучня з малых гадоў прывучалі да думкі, што "благародны" чалавек, "інтэлігент" можа і павінен гаварыць толькі на рускай мове".*** (А.Чарвякоў. "…*Я ніколі не* быў ворагам" Мн.,1992).

Міжвольна прыходзяць у галаву сякія-такія параўнанні, супастаўленні… І, вядома ж, робяцца высновы.

***Генадзь Лагуновіч,***
***г. Менск.***

## Няма нацыянальнага стрыжня

Зусім нядаўна мне давялося прысутнічаць на пашыраным паседжанні Вярхоўнага Савета 13 склікання, што застаўся на пазіцыях Канстытуцыі 1994 года. І вось што мяне там уразіла. Усе папярэдне падрыхтаваныя дакументы былі выключна на расейскай мове. На расейскай мове вялося і паседжанне. Нават тыя дэпутаты, што ў кулуарах прыватныя гутаркі вялі па-беларуску, там сталі размаўляць выключна на расейскай мове. Хаця гэта і здзівіла мяне, але адначасова падумалася: "А можа сапраўды ўся бяда наша ў тым, і гэтага складу беларускага парламента таксама, што няма ў нас нацыянальнага стрыжня". Таго звязнога ядра, вакол чаго групуюцца ўсе індывідумы ў цяжкую гадзіну, забыўшы пра супярэчнасці між сабою.

***Язэп Палубятка***

## Дзеці любяць Беларусь

У школе нумар пяць горада Масты вучні шостых класаў пісалі сачыненне на тэму "Я люблю Беларусь". Чытаючы гэтыя творы, здзіўляешся дзіцячай шчырасці і непасрэднасці ў сваіх выказваннях. Дзеткі любяць сваю Радзіму за "шырокія палі", "блакітныя азёры і рэкі", "спеў жаўрука ў небе", "росную сцяжынку ў лузе". А яшчэ шмат хто з вучняў напісаў, што любяць Беларусь за "пяшчотную матчыну мову". Чытаючы гэтыя радкі радуешся сэрцам, а яшчэ хочацца мець надзею, што пранясуць яны гэтую любоў да Бацькаўшчыны праз усё сваё жыццё, нягледзячы на цяжкасці і выпрабаванні.

***Язэп Палубятка***

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі…"

Працяг

***Цыбы і цыбалкі.*** У слоўніках, як нейтральнае, фіксуецца слова ***цыбаты*** са значэннямі: 1) Высокі і тонкі, звычайна даўганогі; 2) Доўгі і тонкі, з падоўжанай часткай ад ступні да калена (пра ногі). "Міхалючок закруціўся па хаце, як падлетак, заскочыў на сваіх цыбатых нагах". Чорны (ТСБМ.Том 5.Кн.2" Мн.,1984.С.255).

Бачым у слоўніку і слова ***цыбалка*** 'частка нагі ад ступні да калена' (Тамсама). Але няма тут утваральнага слова ***цыбы***, якое выкарыстоўваецца ў творах Янкі Брыля і іншых пісьменнікаў. А менавіта ад гэтага слова ***цыбы*** ўтворана ***цыбаты (цыб-ат-ы).*** У жывой народнай мове слова ***цыбы*** выкарыстоўваецца са значэннем ***'ногі'*** (звычайна як непахвальнае пра доўгія ногі). "Чаго тут выцягнуў свае цыбы, загарадзіў праход". (Грабава Зэльв.р-на).

Бытуе слова і ў гаворках украінскай мовы. "Украінска-беларускі слоўнік" В.П.Лемцюговай (Мн. 1980. С.652) засведчыў: "Циба ж. Абл.(доўгая нага) цыбалка". Слова ***цыбалка*** – утварэнне ( з суфіксам ***–лк-а***) ад дзеяслова ***цыбаць*** *'шырока ступаць'*, якое таксама выкарыстоўваецца ў народнай мове (але не фіксуецца слоўнікамі).

Мяркую, ёсць падставы падаваць у слоўніках і лексему ***цыбы 'ногі (доўгія)'***, а не толькі ***цыбалкі.***

***Інфекцыяваць і інфекцыяваны – а не інфіцыраваць, інфіцыраваны.*** "80 працэнтаў ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі заразіліся шляхам унутрывенных наркатычных ін'екцый. Лідэрам па колькасці знойдзеных вірусаносьбітаў застаецца Гомельская вобласць. Большасць носьбітаў СНІДу прыпадае на Светлагорскі раён" (Народная воля. 19.09.1998. С.2).

***Інфіцыраваны*** – утварэнне ад ***інфіцыраваць.*** Вось як апісваецца значэннее гэтага слова ў слоўніках: "Інфіцыраваць – заразіць (заражаць) інфекцыяй" (ТСБМ. Т.2.Мн.,1978.С.555); "Інфіцыраваць зак. і незак., каго – што (спец.). Унесці (уносіць) інфекцыю, узбуджальнікаў інфекцыйных хвароб. Арганізм інфіцыраваны" (ТСБМ. Мн., 1996. С. 256). Але з вызначэння (дэфініцыі) гэтага паняцця вынікае натуральная форма дзеяслова – ***інфекцыяваць*** – *'уносіць інфекцыю'* ***(інфекцыйаваць).*** Як ***прэмія – прэміяваць, віза – візаваць, пломба – пламбаваць…*** Такая форма ***інфекцыяваць*** вельмі выразна выяўляе сваё значэнне, бо яна беспасярэдна матывуецца ўтваральным словам. А вось штучнае ***інфіцыраваць*** не мае свае ўтваральнае базы, яно нематываванае, цёмнае. Пра тое, што менавіта такой утваральнаю асновай для дзеяслова ёсць назоўнік ***інфекцыя***, сведчыць і выкарыстанне ў дэфініцыі прыметніка ***інфекцыйных*** (хвароб). У высвятленні семантыкі дзеяслова ***інфекцыяваць*** аж два аднаасднованыя словы: ***інфекцыя*** і ***інфекцыйны***. А сам такі дзеяслоў натуральна ўспрымаецца як цалкам асвоены беларускаю моваю (утварэнне з спрадвечнабеларускім суфіксам ***–ава-***, які далучаецца да ўтваральнае асновы).

***Прымірэнчы – а не прымірыцельны.*** Штучнае для беларускае мовы ***прымірыцельны*** бачым у аднатомавым "Тлумачальным слоўніку" беларускай літаратурнай мовы". На с. 515 чытаем: "Прымірыцельны… Які садзейнічае прымірэнню. Прымірыцельны тон". Аднак ужо з самое дэфініцыі відаць ненатуральнасць будовы гэтага слова: ***прымірэнне*** і ***прымірыцельны***. Натуральна ж з ***прымірэння*** вынікае ***прымірэнчы***. Як і ***вызваленне – вызваленчы, запаленне – запаленчы*** ды інш.

Слова ***прымірыцельны*** – механічна перанесенае з расейскае мовы, пра што сведчыць як яго словаўтваральная структура ***(пры-міры-цельн-ы)*** так і супадзенне тэксту беларускага слоўнікавага артыкула з расейскім. Параўнайма: "Примирительный, -ая, -ое. Содействующий примирению. Примирительный тон" (С.И.Ожегов. Словарь русского языка – М., 1982. С.527).

Нармаваным ёсць слова ***прымірэнчы***; ***"прымірыцельны"*** – парушэнне словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы, параўн.: ***абарончы*** (рас. ***оборонительный***), ***аглушальны (оглушительный)***, ***жавальны (жевательный), выбарчы (избирательный), заразлівы (заразительный), лятальны (летательный), чароўны (очаровательный)*** ды інш.

***<u>Паклікане – і прызване.</u>*** "Ян Матусевіч у Беларусі пачаў праводзіць богаслужбу па-беларуску, асвяціў памятны крыж у Курапатах. Яго ўнёсак у духоўнае адраджэнне беларускага народу цяжка пераацаніць… Па прафесіі не працаваў, бо адчуў паклікане да святарскай службы" (Народная воля. 4.09. 1998. Некралог "Ян Матусевіч").

Слова ***паклікане*** – ад ***паклікаць***, якое мае трывалыя карані свайго спрадвечнага карыстання. Адно з яго значэнняў – *'узнімаць, быць матывам для чаго-небудзь'*. На месцы ***паклікане*** нашыя слоўнікі падаюць пазычанае з расейскае мовы ***прызване*** (***призвание***). Рас. ***призвание*** мае ў беларускай мове наступныя адмысловыя адпаведнікі. У РБС-53 (с.908) чытаем: "1. (действие) кліканне, закліканне, (призыв) заклік; 2. (склонность) схільнасць, нахіл, призвание к музыке – схільнасць (нахіл) да музыкі; 3. Прызначэнне". Гэты артыкул цалкам захаваны і ў "Русско-белорусском словаре" 1998 г. (Т. 2.С.777). І ўтваральны дзеяслоў ***призвать*** перакладаецца адэкватна: "Призвать сов. 1. (позвать) паклікаць; призвать на помощь – паклікаць на дапамогу; 2. (на военную службу) прызваць; 3. (к чему) заклікаць (на што і да чаго); призвать к защите Родины – заклікаць на абарону (да абароны) Радзімы; призывать к порядку – заклікаць да парадку" (РБС-53.С.508).

Як бачым, слова ***призвать*** захаванае толькі як вайсковы тэрмін. Але сёння, падчас нашага адраджэння, і тут сталі выкарыстоўвацца свае словы: "Призыв I (агитация) – заклік, -ку, призыв II (на военную службу) набор, -ру; призывник – бранец, навабранец" (С.Суднік, С.Чыслаў. Расейска-беларускі вайсковы слоўнік. Мн.,1997.С.159).

Такім чынам, значэнне *'унутраная цяга і здольнасць да якой –небудзь справы, прафесіі'* натуральна выяўляецца праз беларускае слова ***паклікане*** (а таксама ***схільнасць, прызначэнне***). Словы ***прызваць*** (ад яго - утварэнне ***прызване***), ***прызвацца***) – з вайсковай тэрміналогіі і ўсесаюзнага стандарту, што і засведчыў новы "Тлумачальны слоўнік" (ТСБЛМ.С.512).

***Прызбавы – а не прызбенны.*** Слова ***прызбенны*** бачым у "Тлумачальным слоўніку" 1996 года на с.512 чытаем: "Прызба, ж. Земляны невысокі насып уздоўж знадворных сцен хаты// прым. прызбенны, -ая, -ае". Аднак гэтае штучнае структуры ***прызбенны*** не падае ніводны даведнік, нават "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Словазмяненне, Націск" (Мн., 1987), які змяшчае шматлікія вытворныя словы і іх формы. Утварэнні з суфіксам ***–енн-*** неўласцівыя беларускай мове. Функцыю гэтага расейскамоўнага суфікса ў беларускай мове спраўна выконвае афікс ***–ав- (-ов-, -ев-, -ёв-)***; параўн.: ***язвавы (язвенный), фірмавы (фирменный), дарэформавы (дореформенный)*** ды інш.

У беларускай мове пры ўтварэнні прыметнікаў ад асновы назоўніка, якая канчаецца збегам зычных з фінальным губным зычным ***(б, п, м, в )***, выкарыстоўваецца суфікс ***–ав***,, таму натуральным тут мае быць утварэнне ***прызбавы*** (а не ***прызбенны***).

*(Працяг у наст. нумары.)*





## Выстава памяці Генадзя Сокалава-Кубая

30 верасня ў Менску ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрылася выстава, прысвечаная памяці нашага знанага мастака і выкладчыка Генадзя Сокалава-Кубая (1942-1998г). Выстава, якую адкрывалі "Беларускі саюз мастакоў" і творчая суполка "Пагоня", называецца – "Мая надзея".

Генадзь Генадзевіч заўсёды быў патрыётам Бацькаўшчыны, з'яўляўся адным з заснавальнікаў ТБМ, доўгі час кіраваў адной з раённых радаў Таварыства. Ён пакінуў пасля сябе вялікую спадчыну, вучняў, паплечнікаў, якія не спыняюцца ў творчым адкрыцці роднай спадчыны.

Выстава даносіць туюатмасферу, у якой жыў іпрацаваў Генадзь Генадзевіч. Тут прадстаўлены яго жывапісныя і графічныя публікацыі і творы. Разам з Нінай ён далучыўся да аднараджэння мастацтва выцінанкі ў Беларусі. Таму на выставе цэлая экспазіцыя менавіта такіх арыгінальных сумесных з жонкай твораў.

Фотаматэрыялы знаёмяць з тымі манументамі, комплексамі драўлянай мастацкай скульптуры кіраўніком і натхняльнікам якіх быў Генадзь Генадзевіч. У яго была мара, што калі-небудзь у Менску адбудзецца выстава яго сям'і, бо разам з ім і жонкай мастацтвам займаецца яго дачка Яніна, выпускніца Менскага вучылішча, тут экспануецца шэраг яе прац, прысвечаных памяці бацькі. Пачынаецца экспазіцыя з 50-ці мастацкіх прац партрэтам сына, які належыць пэндзлю бацькі мастака Генадзю Хведаравічу Сакалову.

Гэтай выставай мара Генадзя Генадзевіча здзейснілася, хаця і пасля яго смерці. Ягоная справа знайшла працяг у яго сям'і і ягоных вучнях.

Выстава працуе да 10 кастрычніка.

*Алесь Гурыновіч.*

# Лукаш Калюга

## (1909 – 1937)

У верасні юбілей аднаго з слынных беларускіх пісьменнікаў – Лукаша Калюгі. 27-га верасня спаўнілася 90 год з дня яго нараджэння.

Сапраўднае прозвішча – Канстанцін Пятровіч Вашына. Нарадзіўся 27-га верасня 1909 г. у вёсцы Скварцы Дзяржынскага раёна ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння ў 1931-ым годзе Беларускага педагагічнага тэхнікума працаваў стыльрэдактарам на беларускім радыё. Лукаш Калюга належаў да літаратурнага аб'яднання "Узвышша". У 30-ыя гады амаль што ўсе сябры гэтага аб'яднання былі рэпрэсаваныя. Не праміную такой долі і Лукаш Калюга. У 1933-ым годзе ён быў незаконна рэпрэсаваны і сасланы ў г. Ірбіт Свярдлоўскай вобласці. Расстраляны 2-га кастрычніка 1937-га года.

Творы Лукаша Калюгі, у асноўным, прысвечаны сялянскай тэматыцы. Ён быў верным маральна-этычнаму кодэксу беларускага селяніна. Л.Калюга – выдатны знаўца вясковага чалавека. Творы Лукаша Калюгі адметныя дасціпным гумарам і каларытнасцю. Творчасць Калюгі да сённяшняга дня яшчэ не цалкам вывучана. Некаторыя творы згублены.

## Заява Рабочай групы Асамблеі няўрадавых арганізацыяў Беларусі

Мы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў Рэспублікі Беларусь, кіруючыся Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, прызнаючы правы грамадзян на свабоду аб'яднанняў і асацыяцый, зыходзячы з пачуцця адказнасці і салідарнасці, ацэньваем факт адмовы ў перарэгістрацыі Беларускай Асацыяцыі маладых палітыкаў (БАМП) як пачатак працэсу палітычнай "зачысткі".

Настойліва патрабуем ад Міністэрства Юстыцыі перагляду гэтага рашэння.

Заклікаем урад тэрмінова прыняць меры, якія выключаюць магчымасць выкарыстання працэсу перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў у якасці прылады барацьбы з іншадумствам.

Прапаноўваем разгледзяць спыненне пераследу дэмакратычных няўрадавых арганізацый і аб'яднанняў праз перарэгістрацыю абавязковай перадумовай перамоўнага працэсу пад эгідай АБСЕ.

Заклікаем урады і парламенты, міжнародныя праваабарончыя арганізацыі выкарыстоўваць свой аўтарытэт і любую магчымасць з мэтай уплыву на дзеянні беларускіх уладаў па захаванні правоў чалавека і свабод грамадскіх аб'яднанняў.

Кантактны тэлефон/факс: 220-73-74

## Відыяафіша ТБМ

У гэтую суботу ў відыяклубе ТБМ па Румянцава-13 адбудзецца чарговы прагляд: 16.15 -- "Рок-каранацыя-98". 18.00 -- "Страшны свет. Юрскі парк-2". Уваход, як заўсёды, вольны. Чакаем.



*Старшыні Савета міністраў Рэспублікі Беларусь сп. С.С. Лінгу*
*Менск, пл. Незалежнасці, Дом урада, Савет міністраў.*

## Адкрыты ліст старшыні Савета міністраў Рэспублікі Беларусь па прабламе захавання гісторыка-культурнай спадчыны сталіцы Беларусі, горада-героя Менска

Паважаны старшыня Савета міністраў!

Вымушаны звярнуцца да Вас сёння, у канцы ХХ-га ст., калі сусветная і еўрапейская цывілізацыя ўжо вельмі даўно ўсвядоміла выключную важнасць захавання помнікаў гісторыі і культуры для чалавецтва сёння і ў будучым. Захаванне, навуковая кансервацыя і рэстаўрацыя нацыянальных здабыткаў – сапраўдных сведкаў айчыннай гісторыі сталася прыярытэтнай задачай цывілізаваных дзяржаў свету.

За апошнія гады на Беларусі знішчаны ці сур'ёзна пашкоджаны выдатныя помнікі айчыннай гісторыі і культуры – аўтэнтычныя часткі Дабравешчанскай царквы ў Віцебску, будынак царквы ў Заслаўі, археалагічны пласт Гандлёвай плошчы ў Навагрудку. Штогод знішчаюцца не ўнесеныя ў рэестр старажытныя гарадзішчы і курганы.

Катастрафічная сітуацыя з захаваннем гістарычнай забудовы склалася ў сталіцы Беларусі. Цэлы шэраг рэдкіх і ўнікальных аб'ектаў Менска быў знішчаны ў апошнія гады ў працэсе працаў на Верхнім горадзе Закрытага акцыянернага таварыства "Стары Менск". Гэта будынкі па вул. Герцэна, 2, 2а, 4, 6, 6а, па Музычным завулку, 1, па вул. Інтэрнацыянальнай, 25, 21/3 (дом Манюшкі) і інш. На месцы сапраўдных помнікаў архітэктуры і гісторыі пастаўлены прымітыўныя муляжы для новых гаспадароў, якія ператвараюць Верхні горад у закрытую для гараджанаў зону. Гэтыя грубыя падробкі не адпавядаюць ні мастацкім, ні планіровачным параметрам былых помнікаў Менска, загубленых з дзіўнай згоды Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, які ўзначальвае Бубноўскі Д.С.

Разбураны таксама будынкі на пл.Свабоды 19/21 – унікальны комплекс малога гасціннага двара. За 5 гадоў не зроблена нічога для навуковай рэстаўрацыі гэтага каштоўнага помніка, не прыцягнуты да адказнасці асобы, вінаватыя ў разбурэнні, а захаваныя фрагменты гістарычных канструкцыяў шмат гадоў не закансерваваныя і разбураюцца. Запланавана разбурэнне падземнай часткі гандлёвых радоў (вул. Герцэна, 1) – помнік архітэктуры і археалогіі рэспубліканскага значэння.

Тэрыторыя Ракаўскага прадмесця Менска з'яўляецца помнікам горадабудаўніцтва, архітэктуры і археалогіі рэспубліканскага значэння, але тут адбываецца знос помнікаў, якія знаходзяцца пад дзяржаўнай аховай (напрыклад, д.5 па вул.Вызваленная), і на іх месцы будуюцца сучасныя шматпавярховыя дамы.

Зараз асаблівую трывогу выклікае лёс будынкаў былога гасціннага двара (пл. Свабоды, 2, 4, 6, 8, 10), дома № 14 па вул. Рэвалюцыйная, які звязаны з жыццём і творчасцю Дуніна-Марцінкевіча. Пачаўся знос каштоўнай часткі Верхняга горада, дамоў XIX стагоддзя па вул.Камсамольскай, 5 – 9, якія знаходзяцца пад дзяржаўнай аховай. Менск не павінен страціць гэтыя помнікі!

У сувязі з вышэйпазначанымі праблемамі просім Вас прыняць наступныя меры:

— раскрыць для грамадскасці інфармацыю аб дзейнасці Закрытага акцыянернага таварыства "Стары Менск" у гістарычным цэнтры сталіцы;

— змяніць форму ўласнасці ЗАТ "Стары Менск" для магчымасці шырокага ўдзелу грамадзян у зберажэнні і аднаўленні помнікаў роднага горада;

— прыцягнуць да адказнасці кіраўніцтва Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры РБ, іншых чыноўнікаў у рэгіёнах, вінаватых у бяздзейнасці і санкцыянаванні разбурэння помнікаў;

— давесці да ведама мясцовых уладаў і ўтрымальнікаў помнікаў гісторыі і культуры каштоўнасць спадчыны, а таксама адказнасць за яе пашкоджанне;

— правесці навукова абгрунтаваную рэстаўрацыю і аднаўленне разбуранай вежы-ветрака ў Навагрудку з выкарыстаннем рэшткаў канструкцыяў і аўтэнтычных матэрыялаў;

— спыніць руйнаванне і праводзіць навуковую рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры XIX ст. – дамоў па вул. Камсамольскай, 5, 7, 9, дома № 31 па вул. Інтэрнацыянальнай і іншых помнікаў Верхняга горада, Ракаўскага і Траецкага прадмесцяў Менска;

— правесці кансервацыю, рэстаўрацыю і аднаўленне комплекса будынкаў на пл. Свабоды, 19/21 у Менску;

— забяспечыць захаванне і кансервацыю помніка археалогіі – падземнай часткі комплекса гандлёвых радоў (вул.Герцэна, 1 у Менску);

— прыняць меры па рэстаўрацыі і аднаўленню помнікаў драўлянага дойлідства – цэркваў у в. Забалацце і в. Драчкава Смалявіцкага р-на.

Вельмі спадзяемся на Ваш актыўны ўдзел у ратаванні нашай нацыянальнай спадчыны ў імя будучых пакаленняў беларускага народа.

**З павагай:**

**Ігар Алоўнікаў**, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар.
**Анатоль Багатыроў**, кампазітар, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, прафесар, акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі.
**Зінаіда Бандарэнка**, народная артыстка Беларусі.
**Уладзімір Басальга**, мастак-графік, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў.
**Янка Брыль**, народны пісьменнік Беларусі, ганаровы акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАН).
**Генадзь Буралкін**, старшыня Беларускага саюза мастакоў.
**Генадзь Бураўкін**, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я.Купалы.
**Гаўрыіл Вашчанка**, народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар.
**Ігар Воўчак**, кінарэжысёр, старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў.
**Тамара Габрусь**, кандыдат архітэктуры, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (ІМЭФ) НАН Беларусі.
**Віталь Герасімаў**, загадчык кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў.
**Сяргей Грахоўскі**, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Коласа, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.
**Ігар Дабралюбаў**, кінарэжысёр, народны артыст Беларусі.
**Аляксей Дудараў**, драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР.
**Валеры Жук**, кандыдат мастацтвазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вучоны сакратар ІМЭФ НАН Беларусі.
**Уладзімір Зінкевіч**, загадчык кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў.
**Аляксандра Клімава**, народная артыстка СССР.
**Яўген Кулік**, мастак, сябра Беларускага саюза мастакоў.
**Леанід Левін**, заслужаны архітэктар Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі, акадэмік.
**Максім Лужанін**, пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат прэміі імя Я.Коласа.
**Пётр Лысенка**, доктар гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі.
**Адам Мальдзіс**, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.
**Валеры Раеўскі**, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і Беларусі, прафесар.
**Віктар Роўда**, народны артыст СССР, кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар, акадэмік Міжнароднай славянскай акадэміі.
**Іван Рэй**, мастак-жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі.
**Лія Салавей**, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, старшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ НАН Беларусі.
**Пётр Свентахоўскі**, мастак – жывапісец.
**Стэфанія Станюта**, народная артыстка СССР.
**Георг Сысоеў**, заслужаны архітэктар Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, член-карэспандэнт Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў (Расія), акадэмік Беларускай акадэміі архітэктуры.
**Уладзімір Тоўсцік**, заслужаны дзеяч мастацтваў.
**Міхаіл Фінберг**, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар.
**Анатоль Фядосік**, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, загадчык аддзела ІМЭФ НАН Беларусі, прафесар.
**Вячаслаў Чарнатаў**, кандыдат архітэктуры, дацэнт кафедры БДПА.
**Васіль Шаранговіч**, народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар.
**Віктар Шматаў**, доктар мастацтвазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.
**Георгій Штыхаў**, доктар гістарычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар.
**Леанід Шчамялёў**, народны мастак Беларусі.
**Расціслаў Янкоўскі**, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Наша Слова № 40(425) 6 КАСТРЫЧНІКА 1999 г. Дзядзінец 5

# С Т А Т У Т – падмурак прававой дзяржавы будучага

## Першаму збору законаў нашай краіны – 470 гадоў

29 верасня 1529 года быў уведзены ў дзеянне Статут Вялікага княства Літоўскага (Першы Статут) – адзін з найлепшых помнікаў еўрапейскай прававой культуры эпохі Адраджэння (Рэнесансу). Статут 1529 г. з'явіўся першым упэўненым крокам нашай краіны па шляху да прававой дзяржавы, яму належыць асноўная роля ў развіцці прававой культуры грамадства ў XУI ст.

Далейшае развіццё асновы прававой дзяржавы атрымалі ў заканадаўстве, створаным на аснове першага Статута – Статутах 1566, 1588 гг., Канстытуцыі 1791 г.

Еўрапейская цывілізацыя грунтуецца на прызнанні асноўнай каштоўнасцю правоў і свабод чалавека, і гісторыя права сведчыць, што наша краіна жыве ў адной еўрапейскай прасторы і развіваецца ў адным кірунку. Таму ў адным ланцугу развіцця грамадства, правоў і свабод чалавека знаходзяцца Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 г.г., Канстытуцыі 1791 г. і Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека 1948 г.

Адраджэнне як культурна-гістарычная эпоха мела агульнаеўрапейскі характар, але ў кожнай краіне набывала сваю адметнасць як па часе, так і па асаблівасцях праяўлення ў культуры, навуцы, палітыцы і эканоміцы. Адметнасцю Адраджэння ў нашай краіне стала дасканалая прававая сістэма. Вядомыя даследчыкі гісторыі права адзначылі, што з усіх еўрапейскіх краін прававая сістэма Княства мела найбольш выразны рэнесансны характар. Права гэтага часу грунтавалася на асноўных ідэях эпохі, найбольш уплывовай з якіх быў гуманізм. Сістэма гуманістычных поглядаў развівала ідэю індывідуальнай свабоды. Ідэалогія гуманізму паўплывала і на канцэпцыю арганізацыі грамадства, былі распрацаваны тэорыя грамадскага пагаднення і дзяржаўнага суверэнітэту. Асноўным тэзісам была думка пра абавязак манарха забяспечыць агульную згоду ў грамадстве, паколькі яго ўлада трымаецца на дабраахвотным падпарадкаванні, а таксама ідэя аб неабходнасці абмежавання суверэннай улады манарха законам (Боскім, натуральным і чалавечым).

**АБЕДЗВЕ ПАЛІТЫЧНЫЯ ТЭОРЫІ** паўплывалі на разуменне грамадствам XУI ст. неабходнасці заканадаўчай асновы дзяржаўнай улады. Узнікла патрэба ў кадыфікаваным і уніфікаваным заканадаўстве. Кадыфікацыя права прадугледжвала перапрацоўку ўсяго прававога матэрыялу (прававых звычаяў, законаў, судовай практыкі, навуковых тэорый; параўнанне і запазычванне неабходных нормаў замежных сістэм права, найперш рымскага, нямецкага, а таксама кананічнага, царкоўнага і інш.) і яго сістэматызацыю паводле новай канцэпцыі права на падставе ідэалогіі гуманізму. Гэтым быў пакладзены пачатак стварэнню нацыянальных заканадаўчых сістэм.

У Вялікім княстве на той час існавалі ўмовы для распрацоўкі дасканалага заканадаўства. Акрамя назапашанага заканадаўчага матэрыялу, спрыяльных сацыяльна-палітычных умоў, тут меліся і неабходныя добра адукаваныя прафесіяналы-юрысты. Прафесійная падрыхтоўка юрыстаў – мясцовых ураджэнцаў – ажыццяўлялася пераважна праз навучанне ў замежных універсітэтах (Чэхіі, Італіі, Нямеччыны, Польшчы) і мясцовых прыватных школах. Вядомыя на той час юрысты – навукоўцы і практыкі здолелі падрыхтаваць адно з найлепшых заканадаўстваў свайго часу.

Юрыспрудэнцыя Вялікага княства ў XУI ст. фармавалася такімі вядомымі юрыстамі, філоса-фамі і палітыкамі, як А. Гаштаўт, В.Чырка, Е. Таліят, Ф. Скарына, А. Ратондус, К. Радзівіл, М. Радзівіл, Я. Даманеўскі, А. Валовіч, С. Габрыяловіч, П. Раізій, М. Валадковіч, П. Астравецкі, Л. Сапега і інш.

Праца над першым Статутам доўжылася шмат часу. Дакладна невядомы пачатак работы над першай кадыфікацыяй, але ўпершыню афіцыйнае сведчанне распрацоўка новага заканадаўства атрымала ў Валынскім прывілеі вялікага князя Аляксандра 1501 г., дзе было абвешчана, што прывілей Валынскай зямлі (асобны закон гэтай зямлі) дзейнічае толькі да часу прыняцця агульнадзяржаўнага закона – Статута. Такім чынам, у 1501 г. праца над Статутам вялася, і ў перспектыве бачылася яе завяршэнне. Нягледзячы на тое, што працэс кадыфікацыі знаходзіўся пад пільным наглядам грамадскасці, распрацоўка зацягнулася на два дзесяцігоддзі. Сойм настойліва звяртаўся да манарха з просьбай паскорыць заканадаўчую працу, у чым былі зацікаўлены шляхта і гараджане. Але праект Статута быў пададзены Сойму для абмеркавання толькі ў 1522 г., а канчатковы варыянт прыняты на Віленскім Сойме 1528 – 1529 г.г.

Значная роля ў распрацоўцы Статута, як лічыцца, належала канцлеру дзяржавы, ваяводу віленскаму Альбрахту Гаштаўту, навукоўцам, дактарам права Е. Таліяту, В. Чырку, а таксама знакамітаму асветніку Ф. Скарыну. Яны выдатна ведалі не толькі тэорыю, але адміністрацыйную і судовую практыку. Ідэя Ф. Скарыны пра ролю і месца за-кона ў жыцці грамадства адпавядалі асноўным прынцыпам, зацверджаным у Статуце. Асветнік першым у сваёй творчасці развіў ідэю роўнасці ўнутры кожнага сацыяльнага пласта грамадства.

Дакладны склад статутнай камісіі невядомы, але арганізацыя яе належала вышэйшай уладзе: вялікі князь прызначаў радных паноў і вучоных спецыялістаў, Сойм абіраў сяброў камісіі са свайго асяроддзя, а ўся камісія зацвярджалася Соймам на чале з вялікім князем. З падобнай працэдуры фармавання вынікае, што ў камісію маглі ўвайсці найбольш уплывовыя палітыкі і знаныя юрысты. Звычайна камісія складалася з 10-12 чалавек, пры гэтым абавязкова пароўну католікаў і праваслаўных.

**СТАТУТ 1529 г. УЯЎЛЯЎ САБОЙ "ЗБОР" ЗАКОНАЎ**, санкцыянаваны найвышэйшай уладай для агульнадзяржаўнага ўжывання, для ўсіх станаў ("... так вбогие, яко и богатые... одностайным тым писаным правом мають сужоны быти"). Прынцып прымянення аднаго закона для ўсіх быў прынцыпам новай эпохі, перамогай інтарэсаў большасці, нягледзячы на тое, што закон яшчэ не лічыў усіх роўнымі і замацоўваў прывілеі і льготы феадалаў.

Першы Статут заканадаўча зацвердзіў новыя ідэі, па якіх павінна развівацца грамадства і якія былі ўдасканалены ў наступных Статутах – 1566 і 1588 г.г.: справядлівасці, свабоды і годнасці асобы, роўнасці, верацярпімасці, чалавекалюбства, гармоніі асабістых і грамадскіх інтарэсаў, патрыятызму. Практычнае ўвасабленне ідэй адлюстравалася ў зацверджанні Статута на дзяржаўнай старабеларускай мове, замацаванай ў законе правоў розных станаў, што гарантавала іх ахову; прыярытэт пісанага права, што набліжала аб'ектыўнасць і справядлівасць суда, падпарадкаванне яго толькі закону ("Абы судзіли правам пісаным, естли бы судил иначей, мает карап быти"); зацвярджалася публічнасць суда, роўнасць усіх перад судом і права абвінавачанага на абарону з удзелам адваката. Гэтыя асновы з'явіліся добрым грунтам для буржуазнага заканадаўства.

Ідэалогія гуманізму паўплывала на ўзмацненне правоў асобы ў заканадаўстве, як палітычных, так і цывільных. У Статуце абвяшчалася свабода асобы, не звязанай няволяй. Заканадаўства гарантавала ўдзел у судаводстве пракуратара – прадстаўніка і абаронцы інтарэсаў абвінавачаных у судзе, а для людзей бедных, абвінавачаных у цяжкіх злачынствах, такая дапамога прадстаўлялася без грошай. Закон устанавіў узмоцненую ахову жанчын, за крымінальныя злачынствы супраць іх пакаранні прызначаліся ў два разы большыя. Заканадаўства імкнулася наблізіць роўнасць правоў жанчын і мужчын, зменшыць значную перавагу мужчын. Жанчыны не валодалі палітычнымі правамі, іх асабістыя і маёмасныя правы былі абмежаваныя. Таму ў Статуце важнае месца належала забеспячэнню асабістых і маёмасных правоў жанчын: гарантавалася свабода на шлюб, правы на спадчыну, права забеспячэння пасагам, права ўдоў на матэрыяльнае забяспячэнне, а пазней і права ўласнасці на зямлю, што значна павялічыла ролю жанчыны ў жыцці грамадства і дзяржавы. У галіне прыватнага права наступова зацвердзілася права свабоднага абарачэння маёмасці. Уплыў ідэй гуманізму закрануў і нормы крымінальнага права, нягледзячы на захаванне прынцыпу запалохвання і іспавання пазасудовай расправы над залежнымі людзьмі.

**ІДЭЯ РОЎНАСЦІ ПЕРАД ЗАКОНАМ І КАШТОЎНАСЦІ ЧАЛАВЕКА,** як асобы, сталі падмуркам, на якім атрымалі развіццё правы ўсіх людзей, але ў межах станаў. На гэтай аснове ў 1563, 1564, 1588 гг. была зацверджана законам роўнасць паміж вернікамі ўсіх канфесій, што вельмі важна было для стабільнасці дзяржавы ў час вострых рэлігійных спрэчак.

Асаблівасцю новага заканадаўства была распрацоўка нормаў публічнага права, якія зацвярджалі асноўныя рысы арганізацыі дзяржаўнай улады. Дзяржава разумелася як суверэнная, а манарх з'яўляўся ахоўнікам яе суверэнітэту. Ідэя прадстаўнічай улады народ – шляхты была замацавана ў наданні Сойму шырокіх паўнамоцтваў за кошт абмежавання ўлады вялікага князя. Статут нездарма лічыўся адным з найлепшых заканадаўстваў Еўропы. Найбольш выразную характарыстыку гэтаму збору даў вядомы польскі даследчык права В. Мацяеўскі: "Вялікім для свайго часу помнікам заканадаўства быў Літоўскі Статут і такім, якім тагачасная Еўропа не валодала. Ён нібы расліна, якая абвілася вакол дрэўцаў і прыцягнула да сябе іх сокі, ад іх умацавалася і, перапрацаваўшы ў сабе, аддала ім зноў як лепшыя і спажыўнейшыя".

Аўтарытэт дасканалага заканадаўства стаў падставай для выкарыстання Статутаў у замежных дзяржавах (найперш Польшчы, Расеі і інш.). Такім чынам, 470 гадоў таму нашы продкі абралі і дабіліся зацвярджэння прыярытэту вяршэнства закона, што збяспечыла магчымасць развіцця свабоды для большасці насельніцтва, зацвярджэнне асноў прававой дзяржавы.

***Галіна Дзербіна,***
***кандыдат юрыдычных навук.***



# Вялікі Статут Вялікага княства

29 верасня прынята лічыць днём уступлення ў сілу першага Статута Вялікага княства Літоўскага. Сёлета мы адзначаем яго 470-годдзе. Ён уступіў у дзеянне ў 1529 годзе пры княжанні Жыгімонта Старога (1467 – 1548).

Гэта быў першы ў Еўропе сістэматызаваны збор законаў, згодна якіх належала жыць не толькі простаму паспалітаму люду, але і вяльможам. Ім (законам) нават вымушаны быў паднарадкоўвацца вялікі князь, што павінна служыць яскравым прыкладам сённяшнім кіраўнікам нашае дзяржавы.

Вялікі князь абавязваўся Статутам захоўваць тэрытарыяльную цэласнасць дзяржавы. Акрамя гэтага не дапускаць іншаземцаў на дзяржаўныя пасады, не даваць ім маёнткаў, земляў, чыноў, а таксама захоўваць пануючыя законы і выдаваць новыя толькі толькі з панамі-радамі. Вяльможы таксама былі абмежаваны ў сваіх свавольствах. І гэта было ўпершыню зроблена заканадаўча. Тыя нормы ўнеслі ў Статут людзі перадавых поглядаў Княства ды пэўна пад уплывам ідэй гуманізму эпохі Адраджэнне, што мелі ў той час хаджэнне ў Еўропе. Ды яшчэ было абвешчана правіла, згодна якога людзі, як убогія, так і вяльможныя павінны былі судзіцца згодна з гэтым.

Нягледзячы на гуманістычныя ідэі таго дакумента, ён быў усё ж заснаваны на звычаёвых правах беларускіх земляў, а таксама на нормах пісанага права, што былі ўжыты ў раней выдадзеных прывілеях.

Згодна Статута ўдасканальвалася судаводства, абмяжоўваліся непамерныя судовыя пошліны, рэгламентаваўся ўдзел адвакатаў у працэсе.

Хоць і засталіся невядомымі ў схронах гісторыі імёны ўкладальнікаў гэтага Статута, але і сам ён захаваецца ў сусветнай гісторыі навекі. Ды і сам ён гісторыя. І згодна яго палажэнняў чынілася гісторыя, як Вялікага княства Літоўскага, так і сусветная.

Акрамя вышэй усяго сказанага Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 года мае яшчэ важнае значэнне як помнік культуры і нашай мовы. Гэты дакумент напісаны на беларускай мове і для навукоўцаў каштоўнейшы здабытак для ўсябаковага вывучэння літаратурнага стылю, лексікі і ладу дзяржаўна-прававой тэрміналогіі таго часу.

***Язэп Палубятка.***

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*



### Нябесная заступніца Беларусі

У канцы жыцця Еўфрасіння выправілася ў падарожжа па Святой Зямлі. Так называлі тыя мясціны, дзе нарадзіўся і вучыў людзей Ісус Хрыстос. Па дарозе полацкую князёўну паўсюль сустракалі з пашанаю. Пра яе самаахвярнае жыццё ведалі ў розных краінах.

У горадзе Іерусаліме падарожніца захварэла і памерла. Пазней яе астанкі прывезлі на Бацькаўшчыну.

Еўфрасіння Полацкая зрабіла для нашага народа столькі добрага, што людзі назвалі яе святой. Пасля смерці яе пачалі маляваць на абразах і прасіць у яе дапамогі супраць злых сілаў.

Нашы продкі верылі, што за вялікія заслугі Бог забраў асветніцу на неба і адтуль яна спрыяе землякам ва ўсіх добрых справах. У спаса-Еўфрасіннеўскай царкве ў Полацку захавалася келля, дзе святая пражыла свае апошнія гады. Дык верма, што прыйдзе дзень, калі сюды вернецца і святы крыж, які зрабіў Лазар Богша.

**Пытанні і заданні:**

1. Раскажы пра дзяцінства князёўны Прадславы.
2. Чаму яна вырашыла зрабіцца манашкаю?
3. Якія кнігі чытала Еўфрасіння Полацкая?
4. Што яна зрабіла дзеля асветы свайго народа?
5. Чаму мы памятаем пра дойліда Іаана і ювеліра Лазара Богшу?
6. Што ты даведаўся пра крыж Еўфрасінні Полацкай?
7. Чаму Еўфрасінню назвалі святой?

## Тураўская зямля

### Князь Тур

Дагэтуль мы з вамі найбольш вялі гаворку пра тое, што адбывалася ў Плацкай дзяржаве. Але на абшары сучаснай Беларусі існавала яшчэ адно княства, праўда ўжо не такое буйное і магутнае, - Тураўскае.

Тураўскае княства ўзнікла на землях, дзе пасялілася славянскае племя дрыгавічаў. Першым вядомым нам князем тут быў брат полацкага ўладара Рагвалода. Яго звалі Тур.

"Адкуль узялося такое імя?" – можаце запытацца вы.

У той час у беларускіх лясах яшчэ вадзіліся туры – вялізныя дзікія быкі з чорнай поўсцю і доўгімі, загнутымі наперад рагамі. Тур лічыўся самым дужым зверам, царом пушчаў. Таму продкі назвалі Турам аднаго са сваіх старажытных багоў, што кіраваў жыццём лясных жыхароў і дапамагаў паляўнічым вяртацца дадому са здабычаю. На беразе Прыпяці, што цячэ на поўдні Беларусі, дрыгавічы пабудавалі сабе сталіцу. Па імені князя яна стала звацца Туравам. Упершыню летапіс кажа пра яго пад 980 годам. Гэта значыць, што Тураў – адзін з найстаражытнейшых нашых гарадоў. Яму, таксама як Полацку, Віцебску і Заслаўю, болей за тысячу гадоў.

### Дрыгавіцкая краіна

Цяперашні Тураў – невялікі ціхі пасёлак, а некалі на ягоным месцы шумеў багаты і прыгожы горад. У глыбокай старажытнасці там ужо былі мураваныя цэрквы і манастыры. Там перапісвалі кнігі, малявалі абразы для храмаў, адчынялі школы.



**Тураў.** *Паводле гравюры XIX ст.*

Па адукаванасці і культуры сваіх жыхароў горад на Прыпяці супернічаў з Кіевам. Самая даўняя з вядомых сёння беларускіх рукапісных кніг створана ў Тураве.

На землях Тураўскага княства вырасла шмат беларускіх гарадоў: Бярэсце, Пінск, Слуцк, Клецк, Мазыр, Капыль…

Прыпяць упадае ў Дняпро, і з Турава можна было лёгка трапіць у Кіеў. Прытокі Прыпяці адкрывалі купцам шлях у Полацкае княства, у Польшчу і Прыбалтыку.

Жыхары дрыгавіцкай дзяржавы добра ведалі розныя складаныя рамёствы. Археолагі знаходзяць тут на раскопках пярсцёнкі і бранзалеты, наканечнікі стрэлаў і дзідаў, жалезныя замкі і шахматныя фігуркі, шкляны посуд і свінцовыя абразкі з выявамі хрысціянскіх святых.

Багатая Тураўская зямля ляжала зусім блізка ад Кіеўскай.

Кіеўскія валадары ўвесь час прагна пазіралі на яе, разлічваючы зрабіць сваёй. Спраўдзіць гэтыя планы ўдалося князю Яраславу Мудраму. Ён пазбавіў дрыгавіцкую дзяржаву незалежнасці і далучыў да ўласных уладанняў.

З таго часу незалежнай заставалася толькі Полацкая зямля.

### Беларускі Златавуст

Тады, калі ў Полацку пачала служыць народу асветніца Еўфрасіння, у Тураве з'явіўся на свет яшчэ адзін наш выдатны зямляк – Кірыла.

Хлопчык нарадзіўся ў сям'і багатых гараджанаў. Бацькі паклапаціліся, каб ён атрымаў добрую адукацыю. У той час жонкаю тураўскага князя была грэцкая царэўна. З радзімы яна прывезла шмат вучоных і мудрых прыдворных. Яны сталі настаўнікамі кемлівага хлопчыка. Кірыла вельмі шчыра верыў у Бога. З дзяцінства ён марыў служыць Ісусу Хрысту і славіць ягонае імя ў сваіх кнігах. Дзеля гэтага ён у юначыя гады пайшоў у манастыр.

Каб нічога не перашкаджала яму чытаць царкоўныя кнігі і пісаць уласныя творы, малады манах загадаў замураваць сябе ў манастырскай вежы.

Тут ягонымі суразмоўнікамі заставаліся толькі кнігі, зоркі на небе і птушкі, што прылятаці на вузкае акенца. Акенца было адзіным шляхам, што звязваў Кірылу з чалавечым светам. Адтуль яму перадавалі сціплую ежу, а таксама пергамент, пёры і чарніла для пісьменніцкай працы.

1130? · 1184?

**Кірыла Тураўскі**

Такім ахвярным жыццём Кірыла заслужыў у гараджанаў і ў самога князя глыбокую пашану. Землякі папрасілі манаха выйсці з вежы і абралі яго епіскапам – галоўным святаром Тураўскай зямлі.

Кірыла быў таленавіты чалавек і не шкадаваў часу і сіл, каб ягоны талент раскрыўся як мага паўней. Ягоная юначая мара здзейснілася: ён стаў славутым пісьменнікам і прамоўцам. Найбольш уражвалі чытачоў і слухачоўКірылавы творы, напісаныя ў гонар Вялікадня і іншых хрысціянскіх святаў. У гэтых творах, якія называліся "Словамі", Кірыла Тураўскі ўслаўляў харàство чалавека і прыроды, вучыў жыць праўдзіва, з чыстай душой ды любасцю да Бога і людзей.

Калісьці ў Візантыі жыў пісьменнік і прапаведнік Іаан, якому за незвычайны талент далі імя Златавуст – чалавек з залатымі вуснамі. Асветніка з Турава сучаснікі называлі другім Златавустам, а пасля смерці абвясцілі святым.

Кірыла Тураўскі разам з Еўфрасінняй Полацкай – нашы першыя пісьменнікі. Кірылавы творы перапісвалі і друкавалі на працягу некалькіх стагоддзяў. Іх і цяпер вывучаюць беларускія школьнікі і студэнты.

**Пытанні і заданні:**

1. Як звалі першага вядомага нам дрыгавіцкага князя? Адкуль пайшло такое імя?
2. Што ты даведаўся пра Тураўскае княства?
3. Раскажы пра жыццё Кірылы Тураўскага.
4. Чаму яго назвалі другім Златавустам?
5. За што Кірылу Тураўскага абвясцілі святым?

## Князь Валодша і вайна з крыжакамі

### Нямецкі манах

Аднойчы разам з замежнымі купцамі ў Полацк прыплыў нямецкі манах Мейнард. Госць быў у паношаным адзенні і трымаўся ціха і сціпла. Ён хацеў сустрэцца з полацкім князем.

Тады ў нашай старажытнай дзяржаве ўладарыў князь Валодша. Немцы пачціва называлі яго каралём Вальдэмарам. У княжым хораме манах папрасіў у караля Вальдэмара дазволу ахрысціць зямлю племені ліваў, якая плаціла палачанам даніну. Гэтая зямля ляжала там, дзе Дзвіна ўліваецца ў мора. Яе жыхары, як некалі і нашы продкі, былі паганцамі і маліліся старым багам у святых гаях і дубровах.

Валодша даў манаху згоду. Ён не хацеў псаваць адносінаў з багатымі нямецкімі гарадамі, дзе гандлявалі полацкія купцы. А яшчэ ён верыў, што Мейнард – шчыры чалавек і сапраўды хоча служыць Ісусу Хрысту.

Але ў госця і ягоных гаспадароў былі іншыя намеры: Мейнард пабудаваў царкву, а потым прывёз нямецкіх майстроў і паставіў каля мора некалькі моцных замкаў. Прыкрываючыся словамі пра Бога, немцы пачалі адбіраць у ліваў і ў суседніх з імі зямлю і іншае багацце.

На дапамогу манахам з Нямеччыны прыбывалі рыцары. Яны нашывалі сабе на плашчы крыжы, і таму атрымалі назву крыжакі. З году ў год іхнія караблі падымаліся па Дзвіне ўсё вышэй. Князь Валодша зразумеў, што падпусціў да сваёй краіны небяспечнага ворага.

З берагоў Варажскага мора ў Полацк прыязджалі паслы ад ліваў і эстаў. Яны расказвалі, што крыжакі рабуюць іх і прымушаюць хадзіць разам з немцамі на вайну. Паслы прасілі дапамогі. Полацкая дзяржава распачала доўгую і цяжкую барацьбу з крыжакамі.

### Як ваявалі нашы продкі

Галоўнай вайсковаю сілаю тады была конніца з княжых дружыннікаў. За дзень конныя войска праходзіла паўсотні кіламетраў, а калі вояры ехалі з запасным канём на повадзе, дык улетку ад відна да відна маглі прайсці ўдвая болей.

На ўзбраенні ў дружыны былі дзіды, мячы, лукі, вялікія шчыты, а ў бліжнім баі біліся сякерамі і палiцамі. У паходзе засылалі наперад выведнікаў. Яны мелі заданне захапіць чужога воіна –"языка" і атрымаць ад яго звесткі пра ворага.

Старажытныя беларусы ведалі шмат вайсковых хітрасцяў. Напрыклад, яны рабілі падманныя ўцёкі з поля бітвы і заваблівалі ворагаў у засаду. Каб увесці непрыяцеля ў зман, уначы ставілі несапраўдны стан. Невялікі атрад раскладаў шмат вогнішчаў, гучна перагукаючыся, сек дровы, бразгаў зброяй. Ворагі думалі, што тут спынілася на начлег велізарнае войска, а напраўдзе яно было ўжо далёка.

На высокіх берагах рэк і на ўзгорках продкі будавалі "глядзені". Адтуль вартавы ўдзень і ўначы сачыў, ці не набліжаюцца чужынцы. Калі з'яўлялася небяспека, дазорца запальваў сігнальны агонь, які быў бачны з суседняга "глядзеня". Там таксама падпальвалі нарыхтаваныя сухія дровы. Ланцужок такіх агнёў хутка дабягаў да горада, і жыхары бралі ў рукі зброю.

Калі здабыць чужы горад з ходу не ўдавалася, яго абкружалі з усіх бакоў і распачыналі аблогу. Гарадскія ўмацаванні абносілі тынам, за якім хаваліся лучнікі. Пакуль адна страла была ў палёце, лучнік пасняваў паслаць наўздагон яшчэ тры. Пад прыкрыццём стрэлаў воіны падцягвалі бліжэй каменямётныя машыны. Адзін камень для такой машыны з цяжкасцю падымалі два чалавекі, а ляцеў ён далей, чым страла з лука.

Наблізіўшыся да брамаў і сцен, абложнікі завальвалі роў галлём і ссечанымі дрэвамі. У зробленых каменямётамі праломах кіпеў рукапашны бой. Воіны лезлі на драбінах угару, а абаронцы кідалі на галовы ворагам бярвёны і каменне, лілі вар і кіпучую смалу.

Так ваявалі і дружыны князя Валодшы. Яны даходзілі да мора, дзе ўзвышаліся над наваколлем змрочныя крыжацкія замкі. Валодша заўсёды быў побач з воінамі. Аднойчы пушчаны варожаю машынай камень забіў пад князем каня.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Беларускае замежжа

# Цётка Ірэна

**(Слова ўдзячнасці беларускай жанчыне Ірэне Калядзе з амерыканскага горада Кліўленда)**

Цёплае, нават часам спякотнае надарылася сёлетняе лета ў Беларусі. Можна было б і добра адпачыць, пагрэцца на летнім сонейку, пакупацца ў нашых цудоўных азёрах, рэках ды крыніцах. Пасля доўгай зімы ўсім нам патрэбна аздараўленне – дзецям і дарослым, але не пакідае думка, што над нашым цудоўным краем навісае злавеснае крыло Чарнобыля. Не такое цяпер чыстае паветра, забруджаная вада, не такія гаючыя росы, не падмацоўваюць вітамінамі нашых дзетак спелыя сунічкі, чарніцы, грыбы, праз якія з-за радыяцыі цяпер можна атрымаць страшэнныя хваробы.

На пачатку цёплага сезону мы ў Згуртаванні "Бацькаўшчына" і задумаліся над тым, як дапамагчы нашым дзецям падправіць аслабленае здароўе. Меркавалі, што найлепш было б наладзіць адпачынак дзяцей па-за межамі Беларусі, у цёплых краінах, дзе сапраўды можна падмацаваць здароўе, не баючыся дзейнасці радыяцыі. Сёння такі адпачынак нямала каштуе, і мала якія бацькі змогуць сабраць патрэбныя сродкі, тым больш у сем'ях беларускіх інтэлігентаў. Колькі разоў даводзілася бачыць, як праводзілі летнія канікулы на асфальце беларускія дзеці многіх з тых людзей, хто аддае свае сілы, час на адраджэнскую працу. Сем'і навуковай і творчай інтэлігенцыі не маюць сёння патрэбнага матэрыяльнага забеспячэння, і дзеці іх пазбаўлены ў многіх выпадках самага неабходнага. Менавіта пра іх думалася, калі распрацоўвалі праграму Згуртавання на летні адпачынак.

Некалькі гадоў таму назад мы ладзілі летнікі на Нарачы, куды прыязджалі і дзеці з беларускага замежжа. У гэтым годзе вырашылі звярнуцца самі да беларусаў замежжа ў пошуках сродкаў для аздараўлення дзяцей з Беларусі. Па ранейшаму баліць душа за Бацькаўшчыну ў нашых замежных суродзічаў, думаюць яны пра нас, пра наша не простае жыццё. Знайшлі і мы сярод беларускай эміграцыі добрага чалавека. Жыве ў далёкім амерыканскім горадзе Кліўленд сціплая жанчына з добрым сэрцам – Ірэна Каляда. Маладой дзяўчынаю яна пасля ваеннай віхуры адарванай ад дому, на чужыне занова ладзіла свой лёс. Як толькі адчынілася "жалезная заслона", прыехала на Радзіму, у Беларусь, пабывала ў родных мясцінах, наведала пацярпелыя ад Чарнобыля раёны Палесся. І да сёння не можа забыцца пра тыя жахлівыя карціны – хворыя, паміраючыя ад радыяцыі дзеці ў шпіталях. Тады дала сабе зарок – дапамагаць дзецям Беларусі, колькі хопіць сілы. Вярнуўшыся ў ЗША, стварыла дзіцячы фонд, і з таго часу гэтая праца – яе паўсядзённы клопат.

Гэта нам тут часам здаецца, што ў той Амерыцы грошы з неба падаюць. Сп. Ірэне даводзіцца цяжка працаваць, каб зарабіць такія патрэбныя для беларускіх дзяцей грошы. Праз яе ласку ўжо некалькі гадоў выязджалі на адпачынак значныя групы дзяцей з Гомельскай вобласці. У мінулым годзе дзеці адпачывалі ў Славеніі, на Адрыятычным моры, у гэтым годзе выязджалі ў Чэхію, Эстонію.

Не адмовіла сп. Ірэна і "Бацькаўшчыне". Дзякуючы яе фінансаванай дапамозе мы змаглі арганізаваць групу каля сарака чалавек дзяцей з Гомельскай вобласці і дзяцей беларускай інтэлігенцыі для вывазу іх на адпачынак ў Турцыю. Дзеці цудоўна бавілі час на беразе Эгейскага мора, набіраліся сіл і здароўя пад паўднёвым сонцам, дыхалі чыстым паветрам, плёскаліся ў цёплых ласкавых хвалях, колькі хацелі наядаліся фруктаў і га-роднiны, запасліся вітамінамі на цэлую зіму. Да таго ж паездка аказалася і надзвычай пазнавальнай для нашых маладых беларусаў. Заходняя Турцыя, дзе яны адпачывалі, уяўляе сабой суцэльны музей. Менавіта тут, на ўзбярэжжы легендарнага Эгейскага мора, адбываліся многія падзеі з гісторыі старажытнай Грэцыі і Рыма. Недалёка ад нашага гатэля знаходзіліся рэшткі старажытнага грэцкага горада Эфеса, дзе захаваліся падмуркі аднаго з сямі цудаў свету – храма Артэміды. Там жа, непадалёку, стаіць "дамок маці Марыі". Сюды, пасля распяцця Хрыста, прыйшла Маці Божая, каб дажываць у адзіноце свой век. Цяпер ў гэта святое для ўсіх хрысціян месца прыязджаюць турысты з розных куткоў свету. Наведалі нашы дзеці і цікавы прыродны запаведнік –Памукале, а разам з тым і пабачылі там захаваныя гісторыяй рэшткі старажытнагрэцкага горада Герапаліса, дзе стаіць да нашых дзён каменны амфітэатр рымскага ўзору – на 35 тыс. месц, рэшткі храма і пахавальнікаў. На Турэцкім узбярэжжы Эгейскага мора размяшчаецца і знакамітая Троя.

Асаблівае ўражанне пакінуў Стамбул, старажытны Канстанцінопаль, пра які кожны з дзяцей ведаў з падручнікаў гісторыі, вывучаючы падзеі, звязаныя з існаваннем Візантыйскай імперыі, што паўплывала на гісторыю ўсёй Еўропы. Менавіта там знаходзіцца знакамітая хрысціянская святыня – Храм святой Сафіі, які ўдалося нам пабачыць. Цяпер Стамбул – буйнейшы цэнтр мусульманскай краіны, але і хрысціянскі храм там шануецца належным чынам, ён ператвораны ў музей – месца паломніцтва шматлікіх наведвальнікаў.

Многа іншых ведаў здабылі нашы дзеці пад час падарожжа. Пабачылі, як растуць апельсіны, інжыр, персікі, дзівіліся на бабаўняныя палі, так падобныя на нашы бульбяныя. Цікава было бачыць, як расце на схілах гор "вечнае дрэва" – аліўкавае. Пятнаццаць гадоў яно падрастае, фармуецца, а потым можа даваць ураджай на працягу тысячы гадоў. Невысокія, з вузкімі лісцямі шэразялёныя дрэўцы кормяць жыхароў гэтага краю. Аліўкі з'яўляюцца адной з важнейшых сельскагаспадарчых культураў. Экспарт зробленага з іх алею і саміх алівак займае значнае месца ў гаспадарцы краіны. Можам спажываць іх і мы ў Беларусі, але, як дэлікатэс, яны каштуюць вельмі дорага. Да таго ж, гэтыя старажытныя дрэвы і своеасаблівыя ахоўнікі гэтай зямлі, сведкі ўсёй яе гісторыі.

Для старэйшых дзяцей было цікава пазнаёміцца з укладам жыцця Турэччыны. Пад час сваіх вандровак па заходняй Турцыі мы не маглі не звярнуць увагу і на тое, што гэта краіна імкліва развіваецца эканамічна. Людзі старанна і многа працуюць, адбудоўваюць сваю дзяржаву,якая была створана ў 1923 годзе пасля развалу Асманскай імперыі. Дзівіліся, што дарогі днём і ўначы запруджаны машынамі. Удзень ідзе пераважна пасажырскі транспарт, а ўначы – грузавы, суцэльная плынь. Гэта адна з важнейшых прыкмет таго, што эканамічнае жыццё развіваецца. Дарогі – гэта крывяносная сістэма любой краіны, па іх цякуць людскія і таварныя плыні, якія жывяць усю структуру дзяржавы. Міжволі ўспамінаецца бязлюдства нашых дарогаў у Беларусі. Нават на галоўных магістралях Брэсцкай, Гарадзенскай – рэдкія машыны, пераважна ўласныя "іншамаркі" заможных людзей, што едуць па справах, а часцей у госці да бацькоў. Эканамічны рух амаль не адчуваецца, сустракаюцца рэдкія трэйлеры, ды і тыя пераважна з расейскімі нумарамі – транзітныя.

Як і ў любой усходняй краіне, тут шырока развіты гандаль. Апошнім часам шырока развіваецца турызм, сфера летняга адпачынку, якой карыстаюцца многія жыхары Еўропы. Ужо пасля вяртання з болем у сэрцы ўспрынялі мы сумную вестку аб разбурэннях і чалавечых ахвярах у Турцыі пасля землятрусу. Турцыя – горная краіна, такое здараецца там час ад часу. Спадзяёмся, што разбураныя гарады будуць адноўлены, залечыць раны цудоўны Стамбул і будзе жыць заўсёды, як адзін з сапраўды "вечных" гарадоў. Стамбул спалучае два кантыненты – Еўропу і Азію. Раскінуты на берагах праліва Басфор, што падзяляе кантыненты, горад як бы не дае ім раздзяляцца і злучае іх жывой павяззю. Дастакова пераехаць прыгожы, ажурны мост праз праліў - і ты ўжо на іншым кантыненце , але так жа лёгка можна вярнуцца і назад.

Наша падарожжа і адпачынак у Турцыі пакінулі незабыўныя ўражанні ў дзяцей. Мы былі ўдзячныя краіне, якая цёпла і ветліва нас прывітала і апекавала. Але мы ні на хвіліну не забывалі і пра тое, што маглі мець усе гэтыя даброты найперш з ласкі сп. Ірэны, якая сама нават не знаходзіць часу для адпачынку. Часта ўспаміналі яе, і неяк міжволі дзеці пачалі называць яе між сабою "цётка Ірэна". Цудоўныя беларускія словызвароты: "Цётка, дзядзька". Цёплыя, ласкавыя, ветлівыя, неяк забыліся яны ў цяперашні час. А раней ужываліся паўсюдна і былі адметнасцю беларускага побыту. Так вось сам сабою і прыжыўся гэты зварот у адносінах да сп.Ірэны, якая стала сапраўды клапатлівай цёткаю для многіх беларускіх дзетак. Ад нашых дзяцей, што атрымалі праз яе клопаты магчымасць добрага летняга адпачынку і аздараўлення, мы выказваем ёй шчырую падзяку і зычым самой моцнага здароўя і Боскай падтрымкі ў добрых справах.

Але ж на гэтым не можам скончыць аповед пра "цётку Ірэну", бо немагчыма не ўзгадаць і яшчэ адну важную справу, у якой не абышлося без яе дапамогі.

Вялікае гора напаткала некалі беларускую сям'ю з Менска Наталлі і Аляксандра Гушчаў. Цяжкая доля дасталася іх малодшай дачцэ. Яшчэ немаўляці не споўнілася і года, як дзяўчынка страшна абгарэла пад час пажару ў хаце. У адно імгненне ўспыхнула каляска, адзенне, валасы і тварык, ручкі дзіцяці. Дактары і бацькі доўга змагаліся за жыццё дзяўчынкі, яна выжыла, але засталася калекаю.

З таго часу і пачалася эпапея сям'і Гушчаў. Яны не апусцілі рукі, не змірыліся з лёсам, а ўсё рабілі дзеля таго, каб вярнуць дзіця да больш-менш нармальнага жыцця. Звярталіся да розных спецыялістаў як у сваёй краіне, так і ў замежжы. Дапамогу прапанаваў адзін з амерыканскіх шпіталяў. Маці з дачкою выехалі ў ЗША. Спецыялісты ўзяліся дапамагчы дзяўчынцы, прапанавалі цэлую серыю аперацый, больш трыццаці, каб аднавіць твар, вочы, нос, рот, валасы, пальцы на ручках. Дзеля кожнай з гэтых аперацый патрэбна было ехаць маці з дачкой у Амерыку, бесплатнай была толькі аперацыя, сродкі на астатнія расходы і дарогу, здабывалі самі. Удалося дамовіцца з маскоўскім "Аэрафлотам" аб бясплатным пералёце, і гэта было асноўнай падтрымкаю, астатняе сабралі самі. Так было зроблена 8 аперацый. На чарговую патрэбна было ляцець у гэтым годзе. Але цяпер час ужо другі, падтрымку знайсці амаль немагчыма. "Аэрафлот" адмовіў даць бясплатныя білеты. Куды ні звярталіся бацькі, нават да прэзідэнта, станоўчага адказу не атрымалі. А перапынак у аперацыях рабіць нельга, рукі апускаліся. У адчаі прыйшлі ў Менскі гарвыканкам, і адна з адказных асобаў параіла ім звярнуцца да нашага Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Мой першы званок па гэтай справе быў да "цёткі Ірэны". Адразу ж, без лішніх слоў, яна згадзілася дапамагчы, папрасіла толькі, каб прыслаць ёй інфармацыю пра дзяўчынку. Перадала, каб бацькам сказалі, што не трэба перажываць, усё будзе добра. Купіла ім авіябілеты за 2 тысячы даляраў і да таго ж сама прыехала ў горад на супрацьлеглым баку ЗША, каб сустрэць Аляксандру з маці, забяспечыла іх побыт і надалей дамовілася з дабрачыннай царкоўнай арганізацыяй аб дапамозе гэтай сям'і ў іх сапраўды гераічнай справе.

Мы сёння ў большасці ўжо не верым, што ёсць яшчэ такія самаахвярныя людзі на свеце, што здольныя пранікнуцца болем іншых і ака-заць некаму рэальную дапамогу. Свет змяніўся не да лепшага, развучыліся большасць дапамагаць адзін аднаму, таму і здзіўляюць такія выпадкі. Хочацца пра іх гаварыць, даводзіць людзям, што гэта добры прыклад для ўсіх нас. Мусім быць міласэрнымі, добрымі, спагадлівымі адзін да аднаго, інакш не захаваем гэтае жыццё. Не кожны мае ад прыроды добрае сэрца, адкрытую душу. Але кожны можа навучыцца ў сваім жыцці міласэрнасці, старацца чыніць дабро бліжнім сваім так, як гэта робіць беларуска з Кліўленда Ірэна Каляда.

*Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач.*

# Давайце спяваць па-беларуску

## Песня вартавога ратніка

*Муз.і словы І.Войніча*

***DbEbDbEbDbEbDbEb***
***FBFBFBFB***

***B Gm Eb B***
Мне на вежы вартавой
***B Gm Eb B***
Места ноччу сцерагчы.
***Dm Gm F B***
Месяц, разам будзь са мной,
***B Eb F B***
Ты святлом начны спакой
***B Gm Eb B***
Дапаможаш зберагчы.

***BGmGbFBGmGbFB***
***EbAbBEbAbBEb***

Ноч маўклівая лягла,
Месца бясклапотна спіць,
Апусцілася імгла,
У вокнах не відаць святла,
Толькі вунь адно гарыць.

За вакном чакае там
Мяне любая ў цішы.
Месяц, серабрысты пан,
Ты гадзінку места сам
За мяне пасцеражы.

***BGmGbFBGmGbFB***
***DbEbDbEbDbEbDbEb***
***FBFBFBFB***

## Гарадзенскія майстры



Аплікацыі з саломкі, выкананыя Марыяй Суета з Горадні, карыстаюцца папулярнасцю не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida'l.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 10. 99 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 2796
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 20 000 руб.